# ЗЬМЕСТ:



НА ВОКЛАДЦЫ
ПАРАД
ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
САВЕЦКАЯ, 59
Тэл. № 17-03

5
САКАВІК







На малочнай фабрыцы.

Апавяданьне ТАРАСА ГУШЧЫ
Малюнкі ЗАБОРАВА

# Арыніна перамога



I

**А**РЫНЦЫ было пяць гадоў, калі яе бацьку забралі на вайну з немцамі.

Яна добра памятае той дзень. Такая сумятня была ў іх вёсцы. Плакалі мацяркі і жонкі, выпраўляючы сваіх сыноў і мужоў. Плакала і Арынчына маці, ідучы поруч з Панасам. Панас, Арынчын бацька, нёс на руках яе і меншага брата Арынчынага, Алеся. А на руках у маткі была маленькая Зоська. Арынцы трохі няёмка было такой „вялікай" на бацькавай руцэ. Але яна не протэставала, бо так, відаць, трэба было. Туліў бацька да шырокіх грудзей Арынку і Алеся і цалаваў іх, а ў самога былі сьлёзы на вачох. Прадчуваў, мусі быць, што ня вернецца з вайны.

У дванаццаць гадоў засталася Арынка сіратою. Калі яшчэ жыва была маці, то хоць і цяжка было ім, але сяк-так перабіваліся, і ўдваіх лягчэй гаравалася. Адно толькі можа было шчасьце, што Алесь і Зоська паўміралі раней, і засталася Арынка адна-адненькая. Усю-ж яе маемасьць, хібарку-хату, хлявец і чатыры дзесяціны зямлі, сваякі паразьбіралі. А дзядзька Сымон, старэйшы брат Апанасаў, забраўшы зямлю узяў да сябе і Арынку. Ня соладка жылося ёй у дзядзькі. Свая сям'я вялікая, і тут яна аказалася лішняю. А потым дзядзька Сымон аддаў Арынку служыць на хутар, да заможніка-кулака Трахіма Гармізы.

А час быў такі бурны, неспакойны, трывожны—рэволюцыя, вайна, але Арынчына жыцьцё не мянялася—цяжка было ёй, і ня было каму заступіцца за яе. Ня лепш, як у дзядзькі, было ёй і ў Гармізы. Адна толькі пацеха што Гарміза—чалавек чужы, ня так хоць крыўдна. Умеў Гарміза чужымі рукамі нажывацца, да работы прынявольваць, ды яшчэ і папікаць Арынку сваім хлебам і сваёю кулацкаю ласкаю. Цярпела Арынка, ня бачачы сьвету за работаю, і маўкліва зносіла несправядлівасьць. Горка было і крыўдна: Гармізавы дочкі ў школах вучыліся, шукалі яшчэ лягчэйшага хлеба, хоць жылося ім і так ня кепска—позна ўставалі, елі смачна, хадзілі чыста адзетыя, па добрай волі рабілі работу. Арынка-ж да ўсходу сонца падымалася з пасьцелі, з свайго бярложку за печчу ў кухні, апошняю клалася спаць. Хадзіла летам босая, зімою ў лапцях, у старых неданосках, з патрэсканаю скураю на руках, з заскарузлымі ад работы пальцамі. У няспыннай рабоце, ня ведаючы адпачынку, у сьлепаце і цемнаце праходзіла яе дзявоцтва. Яна ведала, што сіротам цяжка жыць на сьвеце, але глухі протэст падымаўся ў яе сэрцы супроць такой няпраўды. З зайздросьцю і са злосьцю пазірала яна спотайку на Гармізавых дачок: яны вучацца, чытаюць кніжкі, камандуюць ёю. А чым яна горш за ўсіх? У лужыну часамі замест люстэрачка паглядзіцца Арынка і катэгорычна прызнаецца сама сабе: „адзеньце мяне так, як адзеты вы, да навучэце мяне грамаце—я вас за пояс заткну. Ды што ты зробіш? Каму паскардзішся?

II

Бурнае разводзьдзе людзкога жыцьця ўваходзіла ў новыя берагі. І немцы, і белапалякі, і бандыцтва засталося ззаду. Усталявалася савецкая ўлада. Добрыя чуткі сталі даходзіць да Арыніных вушэй: Савецкая ўлада заступаецца за беднату, за абяздоленую голь, за батрацтва. І жыцьцё, як заўважала Арына і людзі навакол яе—пацьвярджалі гэтыя чуткі. На самым Гармізу адбіваліся подыхі новага жыцьця. Адбіваліся яны і на Гармізавых дочках. І Гарміза і дочкі яго відочна пахмурнелі. Абрэзалі Гармізаў хутар, а яго зямлёю надзялілі двух беднякоў.

— Гэта парадак на сьвеце?—злосна бубніў Гарміза:—што я нажыў потам і крывавым мазалём, забіраюць ад мяне.

І скрыва паглядаў на Арынку, але ў вочы стаў лагоднейшы з ёю.

А праз колькі дзён нават і ў гутарку ўступіў з ёю.

— Служыш ты ўжо, Арынка, у нас пяты год і служыш сумленна. Трэба трохі табе і пэнсію падбавіць. Вось табе гасьцінцу 10 рублёў, а з гэтага часу буду плаціць табе на два рублі болей, а ўсяго буду плаціць у месяц чатыры рублі. Можа і цяжка часамі было, то ты ўжо ня крыўдуй, Арынка.

Зьдзівілася Арынка і слоў не знайшла, як сказаць яму.

Але хітры кулак падкупіў маладое дзявочае сэрца. Яна-ж цяпер адразу багатаю стала.

І пачала яна разважаць, чаму Гарміза так раптам падабрэў? Можа і сапраўды ён не такі ўжо ліхі чалавек, якім лічыла яна яго дагэтуль? Так і не дадумалася Арынка, чым растлумачыць Гармізаву зьмену. Напэўна тут нешта ёсьць, думала дзяўчына, і на думку ёй прыходзіла савецкая ўлада.

Але справа скора высьветлілася.

Праз колькі дзён прышла на Гармізаў хутар маладая жанчына з портфэлем спэцыяльна для таго, каб пагаварыць з Арынаю. Арына дужа зьдзівілася, а Гарміза моцна спалохаўся. Яшчэ больш цікава было Арынцы: чаго спалохаўся яе гаспадар, чалавек з шырокаю сьпінаю, з тоўстым, як у вала, каркам, гэтай маладой і зусім на выгляд нястрашнай жанчыны. Наадварот, мужчыне, па настаяшчаму, прыемна павінна быць пабачыць такую жанчыну. Але Гарміза спалохаўся не дарма: маладая жанчына, Ульляна Кубеліч, была ня хто іншая, як прадстаўнік рабачкому ад сельсавету.

Павёў Гарміза Ульляну ў сьвятліцу.

— У вас ёсьць работніца,—адразу і па-дзелавому прыступіла Ульляна Кубеліч да справы, узяўшы карандаш і паперы з портфэлю.

— Ёсьць.—ціха адказаў Гарміза.

— Колькі яна ўжо працуе ў вас?

— А ўжо пяты год.

— А колькі ёй гадоў?—дапытвалася Кубеліч.

— Да ўжо, мусі быць, гадоў восемнаццаць ці каля гэтага,—нясьмела адказаў Гарміза і, ажывіўшыся казаў далей:

— Я ўзяў яе зусім падлеткам. Сірата-ж яна. Проста з жаласьці ўзяў. У мяне яна расла і гадавалася.

— Ну, але яна ў вас была і за работніцу?

— Вядома-ж рабіла работу, як і робяць і мае дзеці.

— Дык вы, што-ж, на правох дочкі трымалі яе?—пацікавілася Ульляна.

— Ды бадай што так.



**... З зайздрасьцю пазірала Арынка на Тармізавых дачок...**

Ульляна паглядзела на Гармізу. Тонкая ўсьмешка прабегла па яе губах.

— Як зваць яе?

— Арына.

— Паклічце яе сюды, а самі выйдзеце,—тонам загаду сказала Ульляна,

— Ось ты чорт цябе вазьмі: прышла сабе ў хату і распараджаецца тут. Але аслухацца грознай жанчыны з портфэлем Гарміза не пасьмеў.

— Мяне вы клікалі?—запытала Арына, увайшоўшы ў сьвятліцу і са зьдзіўленьнем пазіраючы на Ульляну.

— Так, мілая.

— А хто-ж вы такая?

— А я з рабачкому, упоўнаважаная ад сельсавету. Абсьледую становішча батракоў, работніц і работнікаў у прыватных гаспадарках. Сядайце.

— Нічога, пастаю.

— Ці мала настаялася?—лагодна запытала Ульляна.

— Ну, што-ж? Такое наша шчасьце.

— Ты мыляешся, Арынка. Сядай, пагутарым...

Падробна распытала Ульляна пра Арыніну службу, жыцьцё, заработак, пра выходныя дні. Праўдзіва адказвала ёй Арына, не ўтаіўшы нават і тых дзесяць рублёў Гармізавай нагароды і тых двух рублёў надбаўкі, што абяцаў ёй Гарміза. Ульляна ўсё запісвала.

— Вось як гэта добра—умець запісаць,—сказала Арынка пазіраючы, як піша Ульляна і журботна паківала галавою.

— А ты няпісьменная?

— А дзе-ж мне быць пісьменнай?

— А Гарміза-ж казаў, што ты амаль не на правах яго дочкі жыла?

Арына паглядзела на Ульляну, і гэты погляд казаў:

— Гаварыць можна, што хочаш.

Яны зразумелі адна адну і ўсьміхнуліся.

III

Ульлянін візыт на Гармізаў хутар быў паваротным пунктам у Арыніным жыцьці. Па-першае, Арына праканалася, што праўда на сьвеце ёсьць, па-другое, што савецкая ўлада сапраўды бароніць інтарэсы беднаты і не дазваляе, каб яе крыўдзіла і эксплёатавала рознае людзкое павуччо. А вынікам усяго гэтага была справядлівая ацэнка Арынчынай працы ў Гармізы і яе аплата: Гарміза павінен быў справіць Арыні абутак, поўны камплект адзежы, выплаціць ёй трыста рублёў ды даць яшчэ з гары пры разьлічэньні па дзесяць рублёў за тры месяцы.

Абутая, адзетая, з грашыма ў кішэні, горда ішла Арынка з Гармізавага хутара, маладая, прыгожая, вясёлая, з высока паднятаю галавою. Не: савецкая ўлада ня дасьць ёй згінуць!

Апынілася Арынка ў горадзе. У іншы круг людзей, у новае кола інтэрасаў трапіла яна. Прынялі Арынку на фабрыку. Пачала яна хадзіць на сходы, даклады і спрэчкі слухаць, і стала сьвятлець у яе вачох, і гэты сьвет зусім па-іншаму раскрываўся перад ёй. І старанная-ж была яна работніца. Калі ранейшая праца яе была паднявольная, то цяпер працавала яна сьвядома, рупліва, старанна, бо ведала, для чаго, навошта працуе.

Але самае важнае тут было вось што: пачала Арынка ліквідаваць сваю няпісьменнасьць. Наўперад ёй было трохі страшна, калі іх няпісьменных людзей рознага полу і ўзросту, сабралі ў цэлую групу, калі прышоў настаўнік, малады студэнт, ды разлажыў лёзунгі, плякаты і розныя кнігі. І дзіўна было тое, што настаўнік адразу пачаў з чытаньня цэлых сказаў. Пазірала Арына на невядомыя ёй значкі, што азначалі цэлыя словы, і чытала разам з другімі, нічога не разумеючы. Запаміналі сказы, пазнавалі словы ў гэтых сказах, прыглядаліся да іх. Страшна было цяжка і незразумела. Але на далейшых часах гэтыя словы і гэтыя літары-значкі станавіліся больш знаёмымі. Паманеньку, патрошку раскрывалася таямніца чытаньня, граматы...

---

Прайшло тры месяцы часу.

Ехала Арынка ў падшэфны колгас. Дзьве станцыі трэба было ехаць поездам. Апроч Арынкі былі тут яшчэ тры рабочыя і адна работніца з іх брыгады. А ў вагоне былі розныя людзі. Курылі злорава. Арынка-ж чытала ўсё, што пападалася ёй на вочы. І бачыць яна напіс угары над дзьвярыма вагону: „Для някурашчых". Марудна, павольна прачытала яна напіс, прачытала яшчэ раз, зірнула на курцоў. Праўду сказаць, курцы ўжо і ня так заміналі ёй, і табачны дым ня быў ёй праціўны. Але Арынка не магла стрымацца, каб ня выкарыстаць свае пісьменнасьці і права протэставаць супроць курцоў у вагоне для някурашчых. Яна важна падышла да курцоў.

— Таварышы!—сказала яна:—паглядзеце, што там напісана?— і паказала пальцам на напіс. Курцы, хоць і ведалі, што ёсьць тут гэты напіс, але паднялі галовы, паглядзелі на яго і моўчкі спынілі курэньне.

Гэта была першая поўная Арыніна радасьць і вялікая перамога.



**... Яна падыйшла да курцоў і запрапанавала ня курыць...**




# ЗАЧЫНЕНЬНЕ Х ЗЬЕЗДУ САВЕТАЎ БССР

# Х ЗЬЕЗДУ АД ДЭЛЕГАЦЫІ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

прамова

**Я. ЛІМАНОЎСКАГА**

ДЭЛЕГАЦЫЯ пісьменьнікаў, якая прадстаўляе Беларускую Асоцыяцыю Пролетарскіх Пісьменьнікаў, яўрэйскую і польскую сэкцыі БелАПП, беларускае літаратурнае Аб'яднаньне „Узвышша" і Беларускае Літаратурнае Аб'яднаньне „Полымя"—шчыра вітае Дзесяты Ўсебеларускі Зьезд Саветаў (воплескі).

Год за годам пролетарыят, пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі, забясьпечыўшы саюз з бядняцка-серадняцкімі пластамі вёскі, адваёўвае ўсё новыя і новыя позіцыі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. За гэтыя гады таксама адбываліся бойкі і ў беларускай літаратуры, адбывалася заваяваньне ўсё новых і новых позыцый яе пролетарскім сэктарам.

Беларуская пролетарская літаратура прайшла этап змаганьня з сваім асноўным ворагам—беларускім нацыянал-дэмократызмам. Беларускі нацыянал-дэмократызм асаблівую ўвагу зьвяртаў на беларускую літаратуру. Праўда, нацыянал-дэмократы ў сэнсе творчасьці, у сэнсе літаратурнай продукцыі багата не далі. Яны больш гаварылі аб гэтай продукцыі. Грыбаедаўскі герой Рэпецілаў прадстаўнік бяспрынцыпных палітыканаў гаварыў: „Шумим, братец, шумим". Нешта падобнае наглядалі мы і ў беларускіх нацдэмаў. Варта аднаму з іх напісаць самую звычайную літаратурную рэч, як дзесятак нацдэмаўскіх крытыкаў пачынаюць падымаць навакол гэтае рэчы цэлы шум: „што за стыль, што за мова, што за прыгожасьць, што за дасягненьне беларускай літаратуры". Рабілася гэта, каб стварыць уражаньне, што нібыта нацдэмы сапраўды адыгрываюць вялікую ролю ў беларускай літаратуры. Прыкрываючыся размовамі аб беларускай самабытнасьці, аб беларускім народзе, падмяняючы сапраўдныя дасягненьні беларускай пролетарскай і савецкай літаратуры—нацдэмаўскай творчасьцю, узьнімаючы штучную рэкляму вакол гэтае творчасьці, купка нацдэмаў пад гэткай заслонай, пад гэткай маскай праводзіла сваю злачынную контр-рэволюцыйную дзейнасьць. І калі рукамі пролетарскай дыктатуры быў вырваны найбольш сакавіты куст нацдэмаўскай расьліны, дык усе пабачылі, што карэньні гэтай расьліны, ня маючы прыкрыцьця, пазбаўлены прыгожай вопраткі, зусім іншыя, зусім не такія, як верхняя частка. Усе пабачылі, што карэньні гэтай расьліны гэта—кулацкія паўстаньні, інтэрвэнцыя, блёк з фашыстоўскай Польшчай,—Беларусь з адноўленым буржуазным ладам, Беларусь—колёнія Заходня-Эўропэйскага фашызму.

Туды вялі нацдэмаўскія дарожкі.

Неабходна адзначыць, што ў асноўным беларуская літаратура здаровая, што ў асноўным яна не хварэе на гэтую хваробу.

Да таго часу, калі нацыянал-дэмократызм, па сваей актыўнасьці, дасягнуў найвышэйшай ступені (1929 г.),—значна ўзрос і замацаваўся асноўны рашаючы сэктар у беларускай літаратуры—пролетарскі сэктар. Мы маем стварэньне Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў, якая, аб'яднаўшы беларускіх, яўрэйскіх, польскіх, літоўскіх, латыскіх і часткова расійскіх пролетарскіх пісьменьнікаў, уключылася ва Ўсесаюзнае Аб'яднаньне Асоцыяцыі Пролетарскіх пісьменьнікаў — БелАПП, парваўшы рамкі вузкай самабытнасьці і нацыянальнае абмяжованасьці, атрымала магчымасьць выступаць перад працоўнымі БССР ад імя беларускае літаратуры. А нядаўна, у лістападзе 1930 г. на конфэрэнцыі Міжнароднай Рэволюцыйнай літаратуры ў Харкаве, уключыўшыся разам з Усесаюзным Аб'яднаньнем у міжнародны пролетарскі рэволюцыйны рух, мы мелі магчымасьць прамаўляць праз конфэрэнцыю да міжнароднага пролетарыяту.

Адбываўся за гэтыя гады і творчы рост. Дасягненьні беларускай пролетарскай і савецкай літаратуры значна перакрылі

той нацыянал-дэмократычны прарыў, які меў месца ў беларускай літаратуры. Мы маем вялікую творчую і грамадзкую актыўнасьць у шэрагах пролетарскай літаратуры нацменшасьцяй. Такія сэкцыі БелАПП'а, як яўрэйская і польская, увабралі ў сваё шэрагі лепшыя сілы яўрэйскай і польскай літаратуры.

Аднак, неабходна адзначыць, што, ня гледзячы на такія значныя дасягненьні, мы маем пэўнае адставаньне літаратуры. У нашы дні, калі вядзецца рашучае наступленьне пролетарыяту на рэшткі капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне, калі разгортваюцца ўдарныя тэмпы, соцспаборніцтва, калі адбываецца змаганьне за будаўніцтва социялізму ў нашай краіне,—наша літаратура яшчэ адстае. Наша літаратура, якая павінна актыўна дапамагаць справе социялістычнага будаўніцтва, якая павінна, павышаючы сваю мастацкую якасьць, абагачваючыся найбольш актуальнай тэматыкай, уплываць на думкі і пачуцьці чытачоў, адпаведна з чарговымі задачамі рабочае клясы, яшчэ гэтыя задачы здавальняюча ня выконвае. Неабходна нашай пролетарскай, у першую чаргу, і наогул усёй савецкай літаратуры, падцягнуцца да перадавых позыцый змагароў за социялізм.

І таму пролетарскі сэктар беларускай літаратуры БелАПП прыступіў да перабудовы сваёй працы і творчасьці, высунуў лёзунг: „Пісьменьнік—тварам да вытворчасьці", лёзунг, які мае вялікае значэньне для далейшай нашай працы. Пролетарскі пісьменьнік павінен больш рашуча і актыўна ўключыцца ў тую агульную барацьбу, якую вядуць рабочыя ў горадзе і перадавыя бядняцка-серадняцкія пласты ў вёсцы за пабудову социялізму. Гэты ўдзел забясьпечыць пісьменьніку больш пасьпяхова перайсьці да новае найбольш актыўнае тэматыкі. Перад намі паўстае задача падрыхтоўкі пролетарскіх літаратурных кадраў. Мы надаем вялікае значэньне працы літаратурных брыгад на прадпрыемствах. Мы паставілі сабе задачай стварэньне на прадпрыемствах літаратурных гурткоў. Аднэй з найбольш паважных задач перад намі стаіць заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру. Рабочы-ўдарнік—цэнтральная фігура социялістычнага будаўніцтва. На глебе агульнага культурнага ўздыму рабочае клясы, павышэньня яе політычнае актыўнасьці, мы наглядаем дадатную зьяву, як выступленьне рабочых-ударнікаў на фронце літаратуры. Рабочыя-ўдарнікі пішуць высокаякасныя кніжкі аб дасягненьнях і недахопах свайго прадпрыемства. Рабочыя-ўдарнікі ўжо ствараюць літаратурную продукцыю. Рабочыя-ўдарнікі, уліўшыся ў літаратуру, прымуць нэпасрэдны ўдзел у стварэньні літаратурных каштоўнасьцяй, дапамогуць забясьпечыць правільны кірунак пролетарскай літаратуры, дапамогуць разьвіцьцю адпаведных тэмпаў у нашай літаратурнай творчасьці.



**Мясцком пісьменьнікаў. Зьлева направа:
Васіль Сташэўскі, Іл. Барашка, С. Ліхадзіеўскі, Доўгапольскі.**

Зразумела, што правядзеньне гэтых мерапрыемстваў у пролетарскім сэктары літаратуры будзе мець вялікае значэньне і для ўсёй савецкае літаратуры, якая, такім чынам, скарыстоўваючы вопыт, скарыстоўваючы дасягненьні пролетарскага сэктару, таксама ўключыцца больш актыўна ў наша змаганьне за пабудову социялізму.

Перад нашай літаратурай паўстае задача непараўнальна больш чымся да гэтага часу, аддаваць увагу пытаньню абароназдольнасьці нашае краіны, жыцьцю нашае Чырвонае Арміі. З году ў год павялічваецца небясьпека нападу на Савецкі Саюз. Трэба, каб наша літаратура адпаведным чынам падрыхтоўвала грамадзкую думку, адпаведным чынам, сваімі сродкамі, стварала-б настрой чуйнасьці і падрыхтаванасьці да абароны ў шырокіх колах працоўных мас.

Мы павінны адзначыць, што дзякуючы посьпехам социялістычнага будаўніцтва, дзякуючы выкрыцьцю контр-рэволюцыйнай ролі беларускага нацыянал-дэмократызму, наглядаецца вялікі зрух у колах беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, зрух у сэнсе выпраўленьня сваіх памылак і хістаньняў, якія наглядаліся дагэтуль, у сэнсе большага набліжэньня да пролетарскіх позыцый у літаратуры, у сэнсе большага ўключэньня сваёй творчасьцю ў социялістычнае будаўніцтва. Гэты зрух, а таксама ўзмацненьне пролетарскага сэктару ў літаратуры, стварае добрую глебу організацыі Фэдэрацыі Аб'яднаньняў Савецкіх Пісьменьнікаў БССР. Мы наглядаем ужо большую спрацаванасьць паміж пролетарскімі і савецкімі пісьменьнікамі. Стварэньне Фэдэрацыі дапаможа хутчэйшай перабудове літаратуры адпаведна з задачамі нашых дзён, дапаможа яшчэ большаму пашырэньню ўплыву пролетарскае літаратуры.

Перад намі паўстае таксама задача ў бліжэйшыя дні аформіць організацыю сялянска-колгасных пісьменьнікаў. Задачай гэтай організацыі будзе выхаваньне новых кадраў сялянска-колгасных пісьменьнікаў, якія зараз ідуць у літаратуру з нашых саўгасаў, колгасаў, з бядняцка-серадняцкай часткі вёскі.

Так адбываецца растаноўка сіл беларускай літаратуры, перабудова гэтых сіл, для ўдзелу ў агульным наступе пролетарыяту. Пытаньне перабудовы, пераходу на ўдарныя тэмпы, на новую, больш актыўную, тэматыку, якая больш дапамагла-б социялістычнаму будаўніцтву, стаіць зараз перад усімі літаратурнымі аб'яднаньнямі.

Праўда, мы павінны адзначыць, што гэтая перабудова адбываецца з цяжкасьцямі. Нам даводзіцца ісьці па стромкаму ўздыму, у нас яшчэ малавата сіл. Але мы запэўням Зьезд, што гэтыя цяжкасьці, гэтыя няроўнасьці і перашкоды на нашым шляху мы пераможам. Мы запэўняем Зьезд, што яшчэ з большай рашучасьцю будзем выпалываць з градак беларускай літаратуры гэтае сьмяцьцёвае зельле, гэты чартапалох—беларускі нацыянал-дэмократызм; мы будзем забясьпечваць і дапамагаць новым маладым пролетарскім усходам. Мы будзем яшчэ з большай актыўнасьцю працаваць над стварэньнем такіх літаратурных твораў, якія будуць дапамагаць нашаму социялістычнаму будаўніцтву. Мы будзем працаваць з такім разьлікам, каб ня толькі, як мага лепш, выканаць задачы, што пастаўлены перад літаратурай, але каб і перавыканаць іх, запоўніўшы і тое месца ў беларускай літаратуры, якое было занята нацыянал-дэмократычнымі элемэнтамі.

Мы кажам Зьезду, — „Той сыгнал агульнага наступу на фронце гаспадарчым, на фронце політычным, на фронце культурным, які дасьць Зьезд, гэты штурм пролетарскіх калён, мы ўсімі сіламі, усімі сродкамі мастацкай літаратуры будзем падтрымліваць, у гэтым наступе будзем удзельнічаць".

Няхай жыве рашучы наступ пролетарскіх калён пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі, наступ і змаганьне комбінаванымі сродкамі—гаспадарчымі, політычнымі, культурнымі—літаратурнымі.

Няхай жыве адзіны правадыр у гэтым наступе пролетарскіх калён—УсеКП і тав. Сталін. (Воплескі).



За маладую здаровую зьмену

# НА ПОДСТУПЫ ЛІТАРАТУРЫ

Нарыс ЯНКІ БОБРЫКА

**(Пра заклік ударнікаў у літаратуру на заводзе „Комунар“)**

ШТУРМАВАЯ дэкада па закліку ўдарнікаў у літаратуру БелАППам распачалася 22 лютага.

„Комунараўцы“ — брыгада пісьменьнікаў БелАПП, да якой далучыліся прадстаўнікі іншых літаратурных аб'яднаньняў, 22-га вышлі на завод „Комунар“ для знаёмства з прадпрыемствам і падрыхтоўкі працы па закліку ўдарнікаў у літаратуру.

Някіроўваемся на завод.

Па дарозе заўважваем, што зьнік наш „камандзір“ — старэйшы брыгадзір А. Александровіч. Брыгада засталася без „начальніка“ ўсёадно, што войска без камандзіра.

— Што рабіць?

Рашаем чакаць. На сквэрчыку прыпынак. Перакідваемся жартамі. Цярплівасьці не хапае чакаць...

— Ідзе...

— Сапраўды ідзе але... не Андрэй.

Мы прынялі старога невялічкага чалавека за Александровіча...

Разачараваньне.

— Чаго вы, хлопцы, гэта Александровіч у старасьці — зазначае А. Вольны, калі чалавек, якога мы прынялі за Андрэя, параўняўся з намі...

Нарэшце выплывае сапраўдны Андрэй, ды і не адзін...

— Што-ж гэта ты зьнік?.. Кінуў брыгаду... а яшчэ адказны — чуюцца галасы.

— Ды, я, бачыце, опэратара захапіў. На заводзе прасілі фотографа. Ну фото ў Белдзяржкіно не аказалася, дык я кінаопэратара прыпас.

Здаецца ўсё ў парадку. Рушым далей. Брыгада на заводзе. Робім нараду ў заўкоме, дзе абмяркоўваем плян працы. Разьбіваемся па цэхах. Абгаварваем плян шматтыражкі. Назначаем на заўтра цэхавыя мітынгі ў час полудню, па-зьменна. Складаем лёзунгі...

Ідзем у цэхі. У кавальскім цэху прыкоўвае ўвагу ўсяе брыгады паравы молат. Контраст нязвычайны. Тут-жа побач з сілаю пары спаборнічае мускул малатабойца...

Наступны ліцейны цэх.

— Вось у ліцейным цікава, калі адбываецца ліцьцё — кажа т. Гурэвіч, які нас суправаджае па заводзе — але сёньня ліцьця мабыць ня будзе, часьцей яно бывае ўначы.

Але на наша шчасьце, нечакана для т. Гурэвіча, раздаецца званок — ён апавяшчае пра пачатак ліцьця.

Мы згрудзіліся ля вагранкі.

Жалезным кіем рабочы прабівае адтуліну ў нізе вагранкі. Па жалабку рынулася іскрыстая ручаіна чыгуна. Спрытна падстаўляюцца гаршкі. Напоўненыя чыгуны адносяцца да фармовак... Адліваюцца часткі...

Праходзім такарна-сьлясарны, модэльны б яшчэ цэхі. Дзіўна, і паміну няма пра тыя май с эрні, з якіх вырас і расьце завод „Комунар“. 23 лютага брыгада праводзіць цэхавыя мітынгі па закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру. Гэтая праца прыпадае на долю аднае зборнае брыгады, бо частка з брыгаднікаў, на вялікі жаль трэба зазначыць, не зьявілася...

Кавальскі цэх, пасьля полудню, запаўняе заводзкі клюб.

— Літаратура не зьяўляецца забаваю — кажа тав. Галавач. — Літаратура адзін з магутных сродкаў барацьбы на ідэолёгічным фронце ў руках тэй ці іншай клясы. Мы павінны паставіць літаратуру на службу соцыялістычнаму будаўніцтву. Мы павінны пролетарскую літаратуру накіраваць на змаганьне за трэці рашаючы год пяцігодкі. Пролетарская літаратура адстае ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. У нашай беларускай пролетарскай літаратуры зусім нязначная рабочая праслойка. У нас мала твораў з жыцьця героічнага змаганьня рабочых ударнікаў за соцыялізм.

Стварэньне пролетарскай літаратуры — справа пролетарыяту. Пролетарыят павінен аўладаць літаратурным фронтам. Ён павінен са сваіх шэрагаў вылучыць лепшых ударнікаў, якія сапраўды як на вучастку гаспадарчым, так і на літаратурным змогуць дапамагчы маладой пролетарскай літаратуры стаць літаратурай маладой узрастаючай клясы пролетарыяту. Вось у чым значэньне закліку ўдарнікаў у літаратуру.

— Часта мне прыходзіцца спатыкацца з такім зьявішчам — зазначае ў сваім выступленьні прадстаўнік партколектыву т. Гурэвіч, — калі тэй ці іншы рабочы, калі яго запытаеш, чаму ты ня пішаш у газэту, ён кажа:

— Бачыш, ёсьць аб чым пісаць, але я не магу складна ўсё гэта выкладыць на паперы, таму і боязна ўзяцца за гэту справу...

— Зараз-жа, калі да нас прышлі на завод нашы пісьменьнікі, каб нам дапамагчы аўладаць літаратурнай справай, каб з нашых шэрагаў вылучыць ня толькі кваліфікаваных рабкораў, але пісьменьнікаў і поэтаў, мы павінны па-баявому адгукнуцца на гэты заклік і ўступіць у літаратурны гурток тым, хто мае нахіл да літаратурнай працы, хто цікавіцца будаўніцтвам пролетарскай літаратуры, а ня цікавіцца мы ня можам, бо гэта адна з частак нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі...

— Кавалі ведаюць—кажа ў сваім адказным слове рабочы-ўдарнік Трыфонаў—значэньне і ролю пролетарскай літаратуры ў нашым жыцьці і змаганьні, таму па-ўдарнаму правядуць кавалі організацыю літаратурных гурткоў...

Праводзім апошні мітынг. Зацікаўленасьць вялікая. Засыпаюць пытаньнямі.

— Каму можна быць у літгуртку...

— Як будзе праводзіцца праца...

— Калі будуць адбывацца заняткі...

Усё гэта кажа, што комунараўцы дадуць лепшых ударнікаў у літаратуру.

На чарзе працы брытады выданьне шматтыражкі з матэрыяламі, прысьвечанымі заклiку ўдарнікаў у літаратуру і атрыманьне заводам „Комунар" пераходнага сьцягу ЦК ЛКСМБ.

Складаем плян газэты, апрацоўваем матэрыял, даём свой. У газэце будучыя гуртковуцы зазначаюць ролю і значэньне літаратурных гурткоў:

**Кожны ўдарнік—рабкор.**

Кожны рабочы нашага заводу павінен уявіць сабе тую вялікую ролю, якую адыгрываюць літаратурныя гурткі. Рабочы-ўдарнік ня толькі ўдарна працуе ля свайго варштату, але ён імкнецца праз друк выявіць усе недахопы, што перашкаджаюць у рабоце, выконваючы разам з гэтым лёзунг „Кожны ўдарнік—рабкор, кожны рабкор—ударнік".

З гэтай мэтай у нас на заводзе організуецца літаратурны гурток, які будзе вучыць рабочых правільна пісаць, выхоўваючы сапраўдных пролетарскіх пісьменьнікаў.

Рабочыя нашага заводу павінны не адстаць у гэтай галіне і запісацца ў літаратурны гурток.

Г. А.

■

20 лютага вялікі літаратурны вечар. Заля клюбу мэталістаў запаўняецца комунараўцамі.

Ад імя партколектыву, заўкому зав. „Комунар" і БелАПП'у вечар адчыняе т. Александровіч. Слухаюць комунараўцы даклад т. Галавача „Пра сучасны стан беларускай пролетарскай літаратуры і заклік рабочых ударнікаў у літаратуру".

Даклад скончаны. Пытаньні, выказваньні. Тут-жа на гэтым вечары выпуск пасьпяхова скончыўшых партшколу. Пад туш выдаюцца сьціплыя прэміі—невялічкія бібліотэчкі выпускнікам.

Пасьля чытаюць вершы—Процька, Таўбін, Цішка Гартны, Я. Бобрык, А. Александровіч.

Нарэшце концэртная частка. Трэба сказаць, што для пасьпяховага правядзеньня і замацаваньня організацыі літгурткоў на заводзе патрэбна большая зацікаўленасьць і рухавасьць з боку заводзкіх організацый „Комунара" і баявая праца прадстаўнікоў БелАПП'у.

Гэта павінна быць.

Комунараўцы ідуць на подступы аўладаньня пролетарскай літаратурай—яны возьмуць іх.

Я. Б.

АНАТОЛЬ ГІДАШ

# САЛДАТАМ ІМПЭРЫЯЛІЗМУ

Гэй, салдаты! За вучэньне час.
Пятнаццаць гадоў прайшло—і зноў
Муштра, муштра, бясконца з пляча.
Зноў дысцыпліна
Гнe нам сьпіны.
Сталёвым шчаціньнем паўстала Эўропа,
Нюхае паветра для новай прыгоды,
Каб з-за вугла
Агнём жарла
Савецкі Саюз спаліць датла.
Хто будзе цэліць у роднага брата?
Хто жарло навядзе?
Вы?
Дык вас прымусяць, салдаты?
Ідзем-жа, салдаты!
Салдаты, ідзем!
Ідзем-жа, салдаты, ідзем!
Чаму-ж бы і не?
Здабыткі як мёд перамогі.
Ня дарам душыў вас трупны туман:
Вельмі за гэта пакахаў вас пан.
І так вас шанаваў—
Нават ветрык спыняў!
Здаралася, праўда...
Здаралася: зубы крышыў кулакамі,
Здаралася: душыў пад замкамі,
Калоў штыхамі,
Ланцугі каваў,
Чацьвяртаваў,
Зганяў з зямлі штыршкамі,
Замест хлеба—камень
У горла соваў...
Але ўсе гэта дробязь,
Дробязь,
Салдаты!..
За тое вы краскамі ўбраны багата,
І музыка ў лад гудзе.
Ідзем-жа, салдаты,
Салдаты, ідзем! ідзем-жа, салдаты, ідзем!
Альбо будзе інакш,
Салдаты?
Разумнейшымі сталі?
Хопіць ужо бізуна?
Мору апрыкраў нявольніка лёс?
Паўстаньне трубіць матрос?
Мора штыхі накіроўвае зноў?
Бачу, зноў бачу,
Салдаты!
З фабрычных варот—агонь ужо,
Жонкі
Галосяць абняўшы мужоў.
Матулі вашы,
Салдаты,
З рукамі ў крыві, на каленях
З бруку бяруць каменьні.
А на палёх—
Глядзеце, салдаты!
Чырвоны віхор абдымае стагі.
Помста заліла берагі.
Дзіцячыя раты
Крычаць аб помсьце.
З грукатам рухнуць ў бяздоньне масты.
Панская кроў ліецца, зьвініць,
З фабрычных варот—языкі-агні:
Крывавы разьлік падвясьці—і
Расплаціцца за ўсе,
І так расплаціцца,
Каб здрыгануўся ад жаху сьвет!
У панскай крыві захлынецца зьдзек
У страшную ноч расплаты!
Салдаты, ідзем!
Ідзем-жа, салдаты!
Ідзем-жа, салдаты, ідзем!

Пераклаў **Мікола Хведаровіч.**













# У бацьбе

**за сацыя ычную** рацыяналізацыю, за вытворчую дысцыпліну, за аўладаньне тэхнікай—работніца, будзь наперадзе

Чырвоныя хустачкі! Бывалі выпадкі, што яны вырашалі лёс буйнейшых опэрацый, бывалі выпадкі, калі яны выратоўвалі буйнейшыя заваёвы рэволюцыі. Вы помніце: у часе наступленьня Юдзеніча на Ленінград 14 тысяч чырвоных хустачак пайшлі на фронт, каб крывёю сваёй ня толькі затрымаць разьюшанага ворага, але, зьнішчыўшы яго дашчэнту, зьняць пагрозу са сьцен Чырвонай пролетарскай сталіцы.

Чырвоныя хустачкі! Пасьля доўгіх месяцаў самага дзікага разгулу з пачатку немцаў, затым французаў, ангельцаў, грэкаў, пасьля Скарапацкага, пятлюраўцаў, Адэса нейкі час адпачывала і адбудоўвалася пад сьцягам Саветаў, пад аоаронай Чырвонай арміі. Але нядоўга гэта было. Чырвоная армія вымушана была ачысьціць Адэсу, Хэрсон, Мікалаеў, якія зноў перайшлі ў рукі белагвардзейшчыны. Тут, у царстве чорнасоценнай рэакцыі, маладыя комсамольцы працягвалі сваю падпольную работу. Але занадта адважная была дзейнасьць юных падпольшчыкаў, і белагвардзейская лапа іх хутка выкрыла. Дзевяць маладых барацьбітоў рэволюцыі, у тым ліку тры дзяўчыны, былі прысуджаны да кары сьмерцьцю. Два разы выводзілі іх на расстрэл і два разы караул адмовіўся страляць у гэтых адважных юнакоў. П'яная белагвардзейшчына пацягнула іх у склеп, дзе іх бязьлітасна забівалі прыкладамі. Вось адзін з лістоў, напісаны аднэй з забітых комунарак за некалькі гадзін да забойства:

„Мілыя, родныя! Праз 24 гадзіны мяне павесяць у навучаньне патомству. Уходжу з жыцьця з поўным разуменьнем выкананага абавязку перад рэволюцыяй. Шмат яшчэ чаго не пасьпела зрабіць. Што-ж.. Глыбока перакохана, што процэс 17 чалавек мае большае значэньне для рэволюцыі, чымся сьмерць 9 чалавек з іх колькасьці. Мілая сястра, ня журбуйся, будзь рэволюцыянэркай, заспакой маці. Завяшчаю твайму хлапчуку зрабіць тое, што яшчэ не пасьпела зрабіць я для рэволюцыі. Я вельмі бадзёрая, на ўзьдзіў спакойная. Ды ня толькі я, а і ўсе астатнія...

Бывайце. Няхай жыве комуністычная рэволюцыя“...

Сьвядома ішлі чырвоныя хустачкі на фронт і сьвядома паміралі яны на шматлікіх франтох, каб прынесьці волю працоўным масам. Хто з менскіх, слуцкіх, бабруйскіх комсамольцаў 1922 г. забыў гучны галасок Веры Харунжай, які заклікаў вучыцца перамагаць яшчэ незламанага клясавага ворага,—клясу капіталістаў?

Нездарма ўзбройвалася Вера ленінізмам. Ведала Вера, што бяз гэтае зброі ёй не зрабіць ніводнага правільнага кроку ў надыходзячых сутычках. І ўзброенай пайшла Вера ў падпольле, у Заходнюю Беларусь, каб вучыць і організоўваць працоўныя масы для барацьбы і перамогі. Вера апынулася ў руках польскіх катаў. Лютуе пан, калі рабочы на волі. Яшчэ больш лютуе ён, як зловіць пролетарыя, калі ён рыхтуе дамавіну панскаму ладу. Веру б'юць, Веру катуюць, але ніводнага слова не пачулі ад яе паны пра таварышоў, пра работу сваю.

* * *

Чырвоныя хустачкі рэволюцыі! Разам з рэволюцыяй, з яе поступамі, былі і вы. Вы былі разам з яе перамогамі, разам з яе паражэньнямі. Этапы рэволюцыі былі вашымі этапамі. І вось перасягнула рэволюцыя ў новы этап - пэрыод рэконструкцыі. Комуністычная партыя заклікае да рашучае пабудовы фундаманту социялізму. Ударныя брыгады. Соцыялістычнае спаборніцтва. Грамадзкі буксір. Вытворчыя комуны. Чырвоныя хустачкі рэволюцыі не адстаюць і тут.

Было ад чаго хваляваціца работніцы Радашкоўскай, якая працавала ў Менску ў колектыве „Чырвоны Тэкстыльшчык“. Яе работа была пастаўлена ў вітрыне браку, дзе ўсе работніцы мелі мажлівасьць пераканацца як дрэнна працуе Радашкоўская. Крыўдна ёй было. Чаму? За што? Няўжо-ж ня можа яна лепш за другіх працаваць?

Са сьлязьмі на вачох прыбегла Радашкоўская ў фабзаўком:— таварышы, вось рабочае слова даю, што больш са мной гэта ня здарыцца. Ня толькі ў ногу са ўсімі, але і ўперадзе другіх буду, бо зразумела я патрэбнасьць нашага спаборніцтва для соцыялістычнага будаўніцтва.

Сваё слова пролетарыя Радашкоўская выканала.

Вось гэта называецца пастаяць за гонар чырвонай хустачкі рэволюцыі.

На шматлікіх фабрыках і заводах, у колгасах і саўгасах вызваленая пераможным Кастрычнікам работніца і сялянка зьяўляецца актыўным удзельнікам у барацьбе за новыя дасягненьні, за новыя заваёвы на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

І ў новыя, надыходзячыя баі за соцыялізм, чырвоная хустачка прыйдзе ўзброеная багатай практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, каб тым лягчэй сарваць галовы тым, хто вострыць нож на Саюз Саветаў, хто рыхтуе новую сусьветную вайну.





РАСТУЦЬ ВОЛАТЫ ІНДУСТРЫІ

# МЫ НА ВАРЦЕ

ДЭМОНСТРАЦЫЯ Менскага гарнізону X Усебеларускаму зьезду саветаў—лепшы сьведка таму, што рабоча - сялянская Чырвоная армія—на варце.

Чырвоная армія вітае зьезд.

Разгортваючы шырокае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элементы краіны, ліквідуючы кулацтва, як клясу, працоўныя БССР пад кіраўніцтвам компартыі з вялізарнейшым энтузыязмам вядуць напружаную работу па ажыцьцяўленьні задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі—году завяршэньня пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономії.

Мы маем вялізарнейшыя дасягненьні ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Мы маем два рэзкіх контрасты, два малюнкі: становішча СССР і капіталістычнага сьвету. Кажучы словамі тав. Сталіна, мы адзначаем:

У іх, у капіталістаў, экономічны крызіс і заняпад вытворчасьці, як у галіне экономікі, так і ў галіне сельскае гаспадаркі.

У нас, у СССР, экономічны ўздым і рост вытворчасьці ва ўсіх галінах гаспадаркі.

У іх, у капіталістаў, пагоршаньне матэрыяльнага становішча працоўных, зьніжэньне заработнай платы рабочых і дзесяткі мільёнаў беспрацоўных, якія паміраюць з голаду.

У нас, уздым матэрыяльнага становішча працоўных, павышэньне заработнай платы рабочых і поўная ліквідацыя беспрацоўя.

Буржуазія хоча выйсьці з крызісу праз організацыю вайны супроць СССР, яна хоча перакласьці адказнасьць за вынікі крызісу на СССР, яна хоча аслабіць рэволюцыянізуючы ўплыў краіны пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, каб затрымаць наступленьне міжнароднай пролетарскай рэволюцыі.

Уся Чырвоная армія разумее задачы сучаснага пэрыяду. Задачы абароны Савецкага Саюзу непадзельны ад задач пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Працоўныя масы Савецкага Саюзу не забываюць, што нападу імпэрыялістычных ворагаў дзяржава пролетарскай дыктатуры павінна супроцьставіць высокаабучаную, палітычна ўстойлівую, добра ўзброеную бальшавіцкую армію.

Чырвоная армія стаіць на варце пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Рэволюцыйны Ваенны савет, які пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК партыі павядзе нас у будучыя баі з сусьветным імпэрыялізмам, ня раз ужо заяўляў, што „баявая падрыхтоўка Чырвонай арміі і яе каманднага складу павінна быць пастаўлена такім чынам, каб мецць войска, здольнае ў любы момант, з наяўнымі тэхнічнымі і матэрыяльнымі сродкамі, да актыўнай і пераможнай абароны Савецкае дзяржавы".

Чырвоная армія асабліва моцная тым, што яна абкружана ўвагай і любоўю працоўных мас СССР і працоўных усяго сьвету. Сваю соцыялістычную бацькаўшчыну будуць абараняць усе працоўныя масы. Вось чаму,—больш увагі Чырвонай арміі, Чырвонаму флёту, ваенізацыі ўсяго насельніцтва.

Парад Менскага гарнізону X Усебеларускаму зьезду саветаў паказаў, што Чырвоная армія ўжо мае па ўзбраеньні магутную сучасную вайсковую тэхніку, Чырвоная армія пакуль-што адстае ў вайсковай тэхніцы ад армій вялікіх імпэрыялістычных дзяржаў. Але наша вайсковая тэхніка ня ўступіць тэхнічным сродкам барацьбы бліжэйшых і магчлівых праціўнікаў Савецкага Саюзу.

Вось чаму нашай задачай зьяўляецца апанаваньне ваеннай тэхнікай, далейшае павышэньне тэмпаў баявой падрыхтоўкі на падставе ўсё большага разгортваньня вышэйшых форм соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на падставе жалезнай рэволюцыйнай дысцыпліны.








# ТРАНСПАРТ БУДЗЕ НАПЕРАДЗЕ



За ўдарныя тэмпы работы

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ





Зьлева: Рабочы ўдарнік Віцебскай акулярнай фабрыкі за тачыльным станком.
Справа: Рабочы ўдарнік за электрапрэсам.





Зьлева: Швэйная фабрыка „Сьцяг індустрыялізацыі". Мае 2500 рабочых, пачала працаваць у 1930 г.
Справа: Аўтаматы для абточкі краёў акулярнага шкла.





Зьлева: Ударніца Віцебскай акулярнай фабрыкі т. Халюціна за цэнтрыроўкай акулярнага шкла.
Справа: Бручны цэх фабрыкі „Сьцяг індустрыялізацыі" ў Віцебску.

# Па капіталістычным сьвеце

## На хвалях капіталістычнага сьвету

### ШЫКОЗНЫ КУРОРТ У ЦАРСТВЕ ГОЛАДУ

На фоне ўсенароднай катастрофы ў Арканзасе (ПАЗШ), дзе 1000 чалавек у дзень памірае з голаду, асабліва вылучаецца модны курорт „Ход Спрынкс“, дзе сабраліся амэрыканскія міліярдэры. Шыкозныя готэлі перапоўнены, а Чырвонаму крыжу не знайшлося памяшканьня для пабудовы харчавальнага пункту для галадуючых.

Бавоўняны раён поўдню перажывае найвялікшую катастрофу з часоў грамадзянскай вайны. Бюджэты некаторых штатаў знаходзяцца ў такім самым стане, як і гаспадаркі плянтатараў і дробных фэрмэраў. Дзяржаўны банк абвясьціў бойкот. І сапраўды, як зьбіраць падаткі з насельніцтва, у якога зусім нічога няма?

Дзяржава нічым не дапамагае галадуючым. А прыходзіцца дапамагаць сямействам, якія раней ніколі дапамогі не прасілі. Трыццаць пяць процантаў насельніцтва штата Арканзас жыве толькі з дапамогі Чырвонага крыжу. Між іншым Чырвоны крыж дапамагае нэграм таксама. Але гэта абурае плянтатараў, якія лічаць, што Чырвоны крыж „вызваляе“ нэграў, бо атрымліваючы хоць якую-небудзь дапамогу, яны не захочуць працаваць. Нават буржуазны друк вымушаны адзначыць, што на фоне гэтага голаду шыкозны курорт выглядае ня зусім прыстойна.

Шыкозныя аўто коцяцца па вуліцах і развозяць багата апранутых лэдзі і джэнтльмэнаў, якія з прыемнасьцю разглядаюць праз біноклі абадраныя і галодныя натоўпы мужчын і жанчын.



Разгром фашыстамі рэдакцыі ў Польшы.

Нават гарадзкое самакіраўніцтва ня можа знайсьці памяшканьня, каб раздаваць талёны, прызначаныя на дапамогу галадаючым. Ніхто ня хоча здаць гораду пустую краму ці пакой, бо гэта магло-б напомніць гасьцям—міліярдэрам, што ў некалькіх мілях адсюль пануе голад.

### АРМІЯ – БОЛЬНІЦА

У цэнтральнай францускай вайсковай газэце „Франс Мілітэр“ выдрукаваны артыкул, які можна было-б назваць крыкам адчаю.

Калі верыць аўтару, дык француская армія зьяўляецца вялізарным шпіталем, дзе салдаты ня толькі ня вучацца вайсковай справе, але лечацца і ядуць у больніцах дарэмны казённы хлеб.

„Што больш за ўсё зьдзіўляе нас у сучаснай арміі,—піша аўтар артыкулу,—гэта—занадта вялікая колькасць хворых. Людзі, мала знаёмыя з вайсковымі справамі, ускладаюць адказнасьць за гэтую зьяву на той факт, што сучасныя прызыўнікі фізычна вельмі слабыя і слаба пераносяць цяжкасьці вайсковай службы. Зразумела, у гэтым ёсьць доля праўды“.

Але, па думцы аўтара, ёсьць больш сур'ёзная прычына. Гэта—настрой апошніх год, калі моладзь чамусьці лічыць, што будучы ў войску, яна павінна пазбавіцца ад усякіх хвароб, набытых ёю яшчэ тады, калі яна была не ў арміі. Аўтар скардзіцца, што ў выніку дарагоўлі цывільныя людзі ня маюць мажлівасьці лячыцца, і калі ім трэба рабіць опэрацыю ці вылячыць якую-небудзь хранічную хваробу, яны гэта адкладаюць на той час, калі іх возьмуць у войска.

Зразумела, што аўтар занадта хваліць ужо францускія вайсковыя шпіталі. Але факт той, што француская моладзь з невялікай ахвотай ідзе ў войска. Тут яна сустракаецца з усімі „дабротамі“ імпэрыялістычнай казармы. За год службы ад іх хочуць вельмі шмат. Часта іх фізычныя сілы не могуць пераносіць ўсяго, што ад іх вымагаюць. Францускія афіцэры ня думаюць асабліва клапаціцца аб салдатах. Нярэдка бывалі выпадкі, калі на манэўрах, у выніку шалёных маршаў, цэлыя батальёны, горамі валяліся на дарозе. Нядзіва, што за час вайсковай службы кожны салдат па некалькі раз ляжыць у шпіталі.

### КАПІТАЛІСТЫЧНЫ РАЙ

Вялікую нянавісьць выклікаў да сябе нейкі Янсі, віцэ-прэзыдэнт Лібэрыі (протэкторат ПАЗШ). Гэты Янсі сабраў правадыроў пляменьняў і заявіў ім: „Я толькі-што вярнуўся з Монравіі (адміністрацыйны цэнтр Лібэрыі) і маю загад прэзыдэнта, каб кожны правадыр даў мне для Фэрнанда-По па 60 чалавек. Хто адмовіцца, заплоціць 10 фунтаў за кожнага недастаўленага чалавека. Хто ня дасьць людзей і не заплоціць, я спалю яго горад“.

Правадыры пляменьняў даводзілі, што ў Лібэрыі яны ўсякую работу робяць і нават дарэмна. Але для Фэрнанда-По яны ня могуць даць людзей.

Салдаты Янсі палілі хаты, рабавалі тубыльцаў, да сьмерці забілі вялікую колькасьць людзей.

У горадзе Ведабо, дзе малайцы Янсі пабілі асабліва шмат людзей, жанчыны сьпяваюць „сумную песьню жанчын Вэдабо пра Янсі“.

„Мы былі тут, як няшчасьце наведала нашу краіну;
Із быў кінуты ў астрог і аштрафаваны.
Гэта прывяло Янсі ў нашу краіну,—
Ён схапіў нашых мужыкоў і братоў,
І паслаў іх у Пана-Пу.
І там яны паміраюць.
І там яны паміраюць.
Адкажы нам,
Янсі, чаму?
Янсі, чаму?
Жанчыны Вэдабо ня маюць мужэй,
Янсі, чаму?
Жанчыны Вэдабо ня маюць братоў,
Янсі, чаму?
Маткі, бацькі, сыны памерлі,
Чакаючы пакуль яны вернуцца,
Янсі, чаму?“.



Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.



# СЭКТАР КНІГАРАСПАЎСЮДЖВАНЬНЯ

## „МАСТАЦКАЕ СЛОВА—МАСАМ“

„Сэрыя“ зьмяшчае мастацкія творы лепшых беларускіх пісьменьнікаў і пераклады лепшых мастацкіх твораў з расейскай мовы.

**ЦАНА КОЖНАЙ КНІЖКІ АД 20 ДА 90 КАП.**

**Продаж утвараецца ва ўсіх кнігарнях: Белдзяржвыдавецтва, Спажыўкаапэрацыі і Саюздруку ва ўсіх раёнах Беларусі.**

### Вышлі з друку ў 1930 годзе

| | | |
|---|---|---|
| 1. Іл. Барашка. | Рыгор Галота | 62 стар. Цана 20 к. |
| 2. Зьм. Бядуля. | Дзесяць | 92 стар. Цана 35 к. |
| 3. „ „ | Тры пальцы | 90 стар. Цана 35 к. |
| 4. Я. Купала. | Песьня-байка | 60 стар. Цана 40 к. |
| 5. Р. Мурашка. | Прыгранічны манастыр | 92 стар. Цана 30 к. |
| 6. В. Сташэўскі. | Па сонечным шляху | 92 стар. Цана 40 к. |
| 7. К. Чорны. | Нянавісьць | 60 стар. Цана 34 к. |
| 8. М. Лынькоў. | Гой (апавяданьне) | 72 стар. Цана 30 к. |
| 9. Зьм. Фурманаў. | У восемнаццатым годзе | 110 стар. Цана 35 к. |
| 10. А. Чэхаў. | Дзівакі-нябожчыкі | 160 стар. Цана 45 к. |

Цана 15 кап.



Друкарня імя Сталіна Зак. № 512 Галоўлітбел № 1031